


Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

4 лістапада 2016 года №45 (1123)

# Сіноптыкі: гэта яшчэ не зіма

Але ў бліжэйшы тыдзень на Беларусь рухаецца магутны цыклон, які прынясе завірухі і мокры снег.

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.

# Конкурс "Не губляй ніводнага дня..." Выбар чытачоў, выбар рэдакцыі

Па выніках галасавання, якое адбывалася на сайце RH.BY, перамагла **Марына Сільвястровіч** з пяшчотнымі фотаздымкамі вяселля.

У конкурсе "Не губляй ніводнага дня..." найбольш клікаў на сайце "Рэгіянальнай газеты" набралі вясельныя фотаздымкі маладзечанкі Марыны Сільвястровіч. За яе прагаласавалі 2802 чалавекі.

Жанчына атрымоўвае прыз глядацкіх сімпатый і падарунак – смартфон.

Другое месца, паводле галасавання, – у **Станіслава Багдзевіча**, за яго аддалі свае галасы 2465 чалавек.

Трэцяе – у **Настассі Красічэнкі.** За яе прагаласавалі 1043 чалавекі.

Усяго ў галасаванні паўдзельнічалі 9686 чалавек. У конкурсе было 53 удзельнікі.

### Выбар рэдакцыі

Рэдакцыя найлепшым здымкам прызнала фота, зробленае Настассяй Красічэнкай. Яно і ўпрыгожыць фірменны каляндар "РГ" на 2017 год.

Дзяўчына фатаграфуе на працягу двух гадоў.

– На здымках пераважна сябры і тое, што я люблю, – пісала Настасся. – Падабаецца лавіць у кадры ўсмешкі людзей. Цаню ўсмешкі.

Мяркуем, што станоўчыя, усмешлівыя фотаздымкі будуць увесь наступны год паднімаць вам настрой і зараджаць сваёй энергетыкай.

Аддзел інфармацыі.



Фота Марыны Сільвястровіч – выбар чытачоў.



Фота Настассі Красічэнкі – выбар рэдакцыі.

## ТЭМА НУМАРА



Фота Наталлі ТУР.

Менш за ўсё першаму снегу парадаваліся кіроўцы, бо з раніцы трэба было чысціць машыну ад снегу.

# Сіноптыкі: гэта яшчэ не зіма

МАЛАДЗЕЧНА

**У сераду, 2 лістапада, у Маладзечне выпаў першы снег. Пакуль дарожныя службы змагаюцца з наступствамі начнога снегападу, сіноптыкі сцвярджаюць, што гэта пакуль не зіма.**

Але палохаюць тым, што на Беларусь рухаецца моцны цыклон, які прынясе снегапады, завірухі, вецер, мокры снег.

Пра тое, якой зімы чакаць сёлета, мы пагаварылі з кіраўніком групы гідраметэаралогіі вілейскай гідраметэастанцыі **Вячаславам Лапко.**

– Адразу магу сказаць, што ні адзін сіноптык вам не скажа, якая сёлета будзе зіма, цёплая ці халодная. Але прагноз на бліжэйшы тыдзень можам сказаць дакладны.

**У бліжэйшыя дні ў Беларусь прыйдзе магутны цыклон з Ісландыі, які прынясе з сабой завірухі, мокры снег і дождж.**

Пасля гэтага, прагназуюць спецыялісты, зноў усталюецца плюсавая тэмпература і снег растане.

– Зімы пакуль не будзе, – кажа Уладзіслаў Лапко. – Да чаго трэба рыхтавацца, дык гэта да галалёдзіцы і дажджоў з мокрым снегам, якія будуць ісці і ісці.

Уладзіслаў Лапко адзначае, што і 2016 год быў анамальна цёплы.

– Успомніце мінулую зіму. Выпаў снег на колькі? На тыдзень. І ў канцы студзеня крыху памарозіла. І ўся зіма на гэтым. У нас ужо два гады не было паводкі.

Пры гэтым, сцвярджае сіноптык, народныя прыкметы наконт таго, якой будзе зіма, цяпер не працуюць.

– Іх народ прыдумваў тады, калі клімат быў без сюрпрызаў. Яшчэ гадоў 20-25 зімы былі марозныя і снежныя. Але толькі не цяпер.

Адна з самых простых народных прыкмет, якую мы можам праверыць, сцвярджае, што калі выпаў першы снег, праз 40 дзён усталюецца зіма.

**Андрэй Паплёўка**, начальнік ДРСУ-195, расказаў, што службы працуюць у штатным рэжыме.

– Тэхніка выехала на дарогі ў 22:00 у аўторак. На раніцу ў сераду ў раёне працавала восем машын, якія пасыпалі дарогі саляна-пясчанай сумессю.

У ноч, калі выпаў першы снег, машыны ДРСУ ачысцілі 147 кіламетраў дарог у Маладзечанскім раёне.

### ДАІ дае парады кіроўцам і пешаходам

За першыя суткі, калі выпаў снег, у Мінскай вобласці здарылася чатыры ДТЗ.

**ДАІ рэкамендуе не чакаць 1 снежня, а ўжо замяніць гуму на зімовую.**

У складаных умовах надвор'я (снег, мокры снег, галалёдзіца) ДАІ заклікае ўсіх удзельнікаў дарожнага руху праяўляць павышаную асцярожнасць.

У няпростых умовах надвор'я кіроўцам рэкамендуецца выбіраць бяспечную хуткасць і павялічваць дыстанцыю. З асаблівай асцярогай рухацца ў дварах, па мастах, пры праездзе пешаходных пераходаў.

Рэзка не тармазіць і не рабіць манеўраў, якія могуць прывесці да стварэння аварыйных сітуацый.

Пачынаць рух толькі пасля таго, як старанна ачысціце шкло аўтамабіля, асабліва лабавое, ад абледзянення і запацеласці пасля начной стаянкі.

Падчас ападкаў уключаць блізкае святло фар. Абавязкова прышпільвацца ўсім, хто сядзіць у аўтамабілі.

На загарадных дарогах з-за заснежаных абочын пешаходы могуць ісці па краі праезнай часткі. Трэба улічваць гэта, асабліва на пад'ездах да населеных пунктаў.

Цёплае верхняе адзенне робіць пешаходаў менш рухомымі, шалікі і капюшоны абмяжоўваюць агляд, дрэнная бачнасць і слізкая дарога перашкаджаюць людзям хутка адрэагаваць на небяспеку.

Пешаходам рэкамендуецца праяўляць максімум увагі і асцярожнасці пры перасячэнні праезнай часткі. Памятайце, што аўтамабіль немагчыма спыніць імгненна. Ідзіце на пешаходны пераход, толькі загадзя пераканаўшыся, што кіроўцы паспелі спыніцца. Пазначайце сябе святлоадбівальнымі элементамі.

Веласіпедыстам і кіроўцам мапедаў нагадваем, што, згодна з правіламі, падчас снегападу і галалёдзіцы рухацца на двухколавым транспарце забаронена.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

# Колькі каштуе падрыхтаваць машыну да зімы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**З хуткім надыходам зімы аўтааматары ўзяліся за галаву: як падрыхтаваць машыну, каб зімой не было сюрпрызаў ад любімага аўто.**

Мы зрабілі інфаграфіку, каб тыя кіроўцы, якія пачынаюць падрыхтоўку да зімы з нуля, прыкладна ацанілі свой бюджэт.

А тыя, хто ўжо набыў зімовую гуму, з'ездзіў на шынамантаж або сам памяняў колы, цяпер могуць усміхацца і радавацца, што пра зіму падумалі раней. Яны зэканомленыя грошы могуць пакінуць, напрыклад, на навагоднія падарункі.

Таксама інфаграфіка для тых чытачоў, хто збіраецца або нават не думае быць кіроўцам. Паглядзіце, колькі машына вымагае грошай. Магчыма, гэта інфаграфіка дапаможа вам вызначыцца з пакупкай.

Калі падлічыць выніковую суму, якую давядзецца выкласці за падрыхтоўку аўтамабіля да зімы, атрымаецца прыкладна 520 рублёў (а гэта больш за пяць мільёнаў недэнамінаваных рублёў).

Не раскоша аўтамабіль, ой, не раскоша. Але гэта і не толькі сродак перамяшчэння. Хутчэй – член сям'і, любімчык, на якога не шкада траціць грошы, час і сілы.

**Наталля ТУР.**

## Колькі каштуе падрыхтаваць машыну да зімы

Акумулятар ад 90 рублёў

"Незамярзайка" – 10 рублёў

Размарожвальнік шкла, сіліконавая змазка – 10 рублёў



Шынамантаж 28 рублёў

Зімовая гума (камплект) – ад 260 рублёў

Зімовы набор аўтааматара:

Трос – 15 рублёў

Правады для "прыкурвання" – 20 рублёў

Гумовыя дыванкі з борцікамі – ад 40 рублёў

Шчотка–скрабок – 5 рублёў

Інфаграфіка Наталлі ТУР.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**5700** рублёў спагналі з даўжнікоў-парушальнікаў Правілаў дарожнага руху ў Маладзечанскім раёне ў 2016 годзе.

Паводле інфармацыі Маладзечанскага аддзела ДАІ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.10 | 3.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9017 | **1,9042** |
| Еўра | 2,0744 | **2,1078** |
| Злоты, 10 | 4,8081 | **4,8534** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0547 | **3,0141** |
| Грыўня, 100 | 7,4147 | **7,4419** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 26.10 і 2.11** | | |
| Еўра | 2.0400/2.0730 | **2.0800/2.1200** |
| Долар ЗША | 1.8800/1.9020 | **1.8900/1.9080** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 26.10 | | 2.11 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 59 000 | 5,90 | 62 000 | 6,20 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15500 | 1,55 | 15 500 | 1,55 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 25 000 | 2,55 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 70 000 | 7,00 | 69 900 | 6,99 |
| Капуста, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 2 500 | 0,25 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 19 500 | 1,95 | 13 900 | 1,39 |
| Лімоны, 1 кг | 30 000 | 3,00 | 37 000 | 3,70 |
| Апельсіны, 1 кг | 39 500 | 3,95 | 38 500 | 3,85 |
| Мандарыны, 1 кг | 40 000 | 4,00 | 36 900 | 3,69 |
| Гранаты, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Ківі, 1 кг | 32 000 | 3,20 | 32 500 | 3,25 |
| Буракі, 1 кг | 3 500 | 0,35 | 3 500 | 0,35 |
| Памідоры, 1 кг | 17 000 | 1,70 | 19 500 | 1,95 |
| Агуркі, 1 кг | 27 500 | 2,75 | 26 900 | 2,69 |
| Перац, 1 кг | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кавун, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 6 000 | 0,60 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 14 000 | 1,40 | 34 100 | 3,41 |
| Вінаград, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 27 000 | 2,70 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 11 500 | 1,15 | 11 500 | 1,15 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 28 500 | 2,85 | 28 500 | 2,85 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Скраў бутэльку гарэлкі – выпіць не паспеў

ВАЛОЖЫН

Мужчына зайшоў у магазін у Іванцы. Думаючы, што ніхто не заўважыць, узяў бутэльку гарэлкі і схаваў пад адзенне.

Але прадавец заўважыла і сказала, каб мужчына або пакінуў бутэльку, або заплаціў за яе.

Грошай у мужчыны не было, але і пакідаць бутэльку ён не хацеў. Таму кінуўся ўцякаць. Але прадавец і грузчык дагналі яго.

Мужчыну пагражае да чатырох год пазбаўлення волі. Ён злоўжывае спіртным, не працуе і ўжо быў судзімы раней.

Пра гэта расказаў старшы следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Сяргей Лапцік.**

## Спатрэбілася дзіцячая каляску, каб бутэлькі вазіць

ВАЛОЖЫН

У Валожыне мужчына скраў дзіцячую каляску, якая стаяла ў пад'ездзе аднаго з дамоў.

Мужчына – мясцовы жыхар. Ён нідзе не працаваў, злоўжываў спіртным і не раз трапляў у лячэбна-працоўны прафілакторый.

Зранку валожынец займаўся сваёй звычайнай справай – збіраў у горадзе бутэлькі. Пасля зайшоў у пад'езд шматкватэрнага дома ў спальным раёне.

Тут ён убачыў каляску і скраў яе. Прычым, як высветлілася, каляска спатрэбілася мясцоваму жыхару не для таго, каб яе прадаць. Знізу ў калясцы была сетка, у якой зручна вазіць бутэлькі.

Гаспадыня каляскі, жыхарка трэцяга паверха гэтага дома, паведаміла ў міліцыю пра крадзеж.

Праз некалькі дзён мужчыну затрымалі, каляску вярнулі гаспадыні.

Супрацоўнікі Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта нагадваюць жыхарам, каб не пакідалі ўласныя рэчы ў пад'ездах.

Пра гэта расказаў старшы следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта Сяргей Лапцік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Ракаве 26-гадовы хлопец учыніў тры крадзяжы

ВАЛОЖЫН

Першы крадзеж электраінструмента з незачыненага мікрааўтобуса малады чалавек учыніў у ноч на 31 жніўня.

Літаральна праз два дні з яшчэ аднаго незачыненага аўтамабіля зламыснік скраў магнітолу.

Але і гэтага яму пакалася мала.

Тут жа ён пракраўся ў гараж, дзе скраў бензінавы трымер.

– Яго заключылі пад варту, справу хутка перададуць у суд, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі.**

Як адзначыў следчы, у маладога чалавека да гэтага было шэсць судзімасцяў.

## Праходзіць мерапрыемства "Быт"

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 2 да 7 лістапада кожны, каму вядомыя выпадкі гвалту ў сям'і, можа патэлефанаваць у міліцыю і расказаць пра гэта.

Спецыялісты вас выслухаюць, калі вам вядома пра канфліктныя выпадкі ў сем'ях, пра тое, што хтосьці з членаў сям'і злоўжывае спіртнымі напоямі, што дзеці знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы.

Тэлефанаваць можна на "гарачую лінію": **102, 77-16-56** (кругласутачна), **77-14-88, 77-44-11** (у рабочыя дні ад 9:00 да 18:00).

## Спрабаваў скрасці запчасткі

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 19 кастрычніка каля новай кальцавой аўтадарогі, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК Ілля Глінскі.

Непадалёк ад Валожына сапсавалася фура, якая ехала з Заслаўя. Скарыстаўшыся тым, што фура стаіць на ўзбочыне, прадпрымальны 23-гадовы хлопец з Мінска спрабаваў скрасці з машыны запчасткі і камплектуючыя.

Але пільны гаспадар паведаміў пра гэта ў міліцыю. Узбуджана крымінальная справа.

**Наталля ТУР.**

# Восень – час крадзяжоў з дач і садовых таварыстваў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанская міліцыя, прыводзячы лічбы і статыстыку, пераконвае гаспадароў садовых участкаў быць пільнымі.**

Крадзяжы з дач у Маладзечанскім раёне

72 крадзяжы з дач учыненыя ў 2016 годзе

Часцей за ўсё крадуць у
Красненскім сельсавеце - 23 крадзяжы
Радашкавіцкі сельсавет - 19 крадзяжоў
Алёхнавіцкі сельсавет - 17 крадзяжоў

Як засцерагчыся ад зладзеяў?

- Паставіць на вокны рашоткі
- Усталяваць надзейныя замкі
- Завесіць вокны шторамі
- Папрасіць наглядаць суседзяў

Інфаграфіка Наталлі ТУР.

У апошні час колькасць крадзяжоў з дачных дамоў павялічылася, прычым, зладзеі крадуць прадукты харчавання.

Трэцяга кастрычніка у садовым таварыстве "Зялёныя агні", што непадалёк ад Пралесак, невядомы разбіў акно ў доме і скраў 1,5 літра самаробнага соку і бутэльку шампанскага.

16 кастрычніка ў іншым садовым таварыстве паблізу Пралесак невядомы скраў з дома дзве ўпакоўкі чаю.

Гэтыя два крадзяжы дадаліся да 70 іншых, якія адбыліся ад студзеня да верасня.

На тэрыторыі якіх сельсаветаў у садовых таварыствах крадуць больш за ўсё? Аказалася, што лідзіруюць у гэтым спісе таварыствы Красненскага сельвыканкама. Там сёлета ўчынілі 29 крадзяжоў.

У садовых таварыствах Радашкавіцкага сельвыканкама – 19 крадзяжоў. У таварыствах Алёхнавіцкага сельвыканкама – 17.

Спосабы крадзяжоў, як адзначаюць у міліцыі, не арыгінальныя.

У 23 выпадках зламыснікі наўпрост разбівалі шыбы ў вокнах і такім чынам траплялі ў дом. Восем крадзяжоў адбылося з-за таго, што зламыснікі зламалі замок або адціснулі шклопакет. Дзевяць – з-за таго, што вынялі аконную раму. Але 10 крадзяжоў учынілі таму, што вокны або дзверы былі адчыненыя. І зламыснікі без перашкодаў траплялі ў дамы.

Як жа засцерагчы сябе ад крадзяжоў з дач у зімовы перыяд?

Адзін з самых надзейных спосабаў, тлумачаць у Маладзечанскім РАУС, гэта заключыць дагавор з падраздзяленнем Дэпартамента аховы. Або можна арганізаваць дружыну з тых, хто ўваходзіць у садовае таварыства. Аднак, прызнаюцца міліцыянеры, хаця яны і не раз выступалі з падобнымі прапановамі, толькі водгуку так і не знайшлі.

Таму рэкамендацыі носяць практычны характар: замяніце замкі ў дзвярах на больш надзейныя, па магчымасці на вокны ўстанавіце рашоткі. Яшчэ адна парада: перад тым, як з'ехаць з дачы, завесьце вокны шторамі, не пакідайце там каштоўныя рэчы. Тым больш не пакідайце іх навідавоку.

А тым, хто нячысты на руку, маладзечанская міліцыя нагадвае, што за крадзяжы прадугледжаная як адміністрацыйная, так і крымінальная адказнасць.

**Наталля ТУР.**

## У Ракаве хлопец пабіў навязлівага пасажыра свайго ўласнага аўто

ВАЛОЖЫН

У Ракаве ёсць бар, які працуе да трох гадзін ночы, – расказвала следчая Валожынскага РАСК **Юлія Селятыцкая.** – У адзін з вечароў там і здарылася гісторыя, якая скончылася ўзбуджэннем крымінальнай справы за нанясенне менш цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Малады чалавек, які вінаваты ў бойцы, прывёз у ракаўскі бар кампанію сяброў. Сам пры гэтым нават не выходзіў з машыны, у бар не заходзіў.

Калі кампанія выйшла з бара, па дамах вырашылі не расходзіцца, а папрасілі кіроўцу адвезці іх яшчэ ў адзін бар.

Разам з гэтай кампаніяй з забаўляльнай установы выйшаў яшчэ адзін хлопец. Які потым і стаў пацярпелым.

Ён быў добра п'яны і прасіў яго таксама ўзяць з сабой у другі бар.

Кіроўца доўга не пагаджаўся, але кампанія, што была з ім, угаварыла яго.

У другі бар кампанія завітала ненадоўга. Купілі неабходнае і сабраліся з'язджаць.

І зноў няпрошаны пасажыр папрасіўся адвезці яго.

Пры гэтым, прасіў настойліва і не ў вельмі ветлівай форме: абражаў, крычаў, паводзіў сябе нахабна.

Тады кіроўца выйшаў з машыны і некалькі разоў ударыў пацярпелага. Потым кампанія з'ехала.

Пацярпелы патэлефанаваў свайму бацьку, каб той забраў яго.

Бацькі пацярпелага і напісалі заяву ў міліцыю.

Пакуль абвінавачаны ў сваіх дзеяннях не папрасіў прабачэння ў пацярпелага, хаця аб тым, што яго ўдарыў, шкадуе.

Справа будзе перададзеная ў суд.

**Наталля ТУР.**

# Як узнагародзілі самы актыўны клас

МАЛАДЗЕЧНА

**По выніках інтэрнэт-галасавання конкурсу "Дзясятачка" самым актыўным класам аказаўся 5 "В" гімназіі-каледжа мастацтваў у Маладзечне. Дзеці разам з настаўніцай атрымалі запрашэнне ў піцэрыю "Пінгвін", што ў Маладзечне па Францішка Скарыны, 10-а.**



Фота Наталлі ТУР.

Паўдзельнічаць у конкурсе "Дзясятачка" Юлі Канановіч прапанавала мама. Дзякуючы яе добрай вучобе і актыўнасці на сайце клас пайшоў у піцэрыю "Пінгвін".

Робячы такі вялікі заказ, мы меркавалі, што піц з вяндлінай давядзецца чакаць як мінімум паўгадзіны. Аднак наколькі былі здзіўленыя, калі літаральна праз пяць хвілін духмяная страва пачала з'яўляцца на стале. На тое, каб прыгатаваць 25 піц, пайшло хвілін 20. Такой хуткасці мы не чакалі.

Пакуль мы выпрабоўвалі хуткасць прыгатавання піц у "Пінгвіне", многія дзеці стараліся выпрабаваць хуткасць вай-фая. Ён, дарэчы, каштуе 1 рубель 50 капеек за гадзіну.

Як толькі піца з'явілася на сталах, з розных куткоў піцэрыі мы чулі: "Ах, які салодкі пах", "Ой, я таксама хачу", "Мая любімая". А многія нават падзяліліся тым, што елі б піцу штодзень, аднак у мам не хапае на гэта часу. Мяркуючы па ўсім, падарунак сапраўды прыйшоўся даспадобы пераможцам.

### За галасаваннем сачылі штодзень

Пакуль клас частаваўся піцай і дзяліўся сваімі ўражаннямі, мы пагаварылі з удзельніцай конкурсу "Дзясятачка" **Юляй Канановіч**, якая даслала шчаслівы бланк, што і ўдзельнічаў у намінацыі за самы актыўны клас.

– Пра конкурс мне расказала мама, – дзеліцца дзяўчынка. – Яна чытае газету і ў інтэрнэце, таксама штотыдзень набываем яе. Там даведалася пра ўмовы. Расказала, што за добрыя ацэнкі можна атрымаць планшэт альбо схадзіць у піцэрыю. Я і так добра вучуся, таму ўдзельнічаць было не цяжка.

Як толькі на сайце "Рэгіянальнай газеты" з'явілася галасаванне за самы актыўны клас, дзяўчынка расказала пра гэта сябрам, аднакласнікам, сваякам. Так колькасць галасоў увесь час расла.

– Мама вельмі хвалявалася, ці атрымаецца перамагчы, – дзеліцца пяцікласніца. – Таму кожны дзень заходзіла ў інтэрнэт, сачыла за вынікамі. Як толькі даведаліся, што наш клас самы актыўны, ажно скакала ад радасці.

Юля вучыцца выдатна, таму з намі яна падзялілася сакрэтам поспеху, з яго мы вывелі наступную формулу.

**Рабіць дамашняе заданне + вучыць правілы + слухаць настаўніцу = вучыцца выдатна.**

Акрамя таго, што дзяўчынка добра вучыцца, яна актыўна займаецца ў тэатральнай студыі. Напярэдадні Новага года разам з іншымі тэатраламі яна выступіць у сцэнцы пра Японію.

Юля ўжо вызначылася з будучай прафесіяй – будзе актрысай. Калі яе планы не памяняюцца, "Рэгіянальная газета" будзе першай, хто ўзяў інтэрв'ю ва ўзыходнай зоркі.

Напрыканцы мы пагулялі ў асацыяцыі з дзецьмі. Мы папрасілі расказаць, якімі б словамі яны апісалі піцу ў "Пінгвіне". І пачулі: "духмяная, апупенная, аналагічная дамашняй, фантастычная, гарачая, прыдатная да яды, растае ў роце".

**Аддзел інфармацыі.**

## Доўга ўпэўнівалі пераможцу, што ёй дастанецца планшэт

### Конкурс "Дзясятачка" завершаны

Напярэдадні асенніх канікулаў "Рэгіянальная газета" падвяла вынікі конкурсу "Дзясятачка". Галоўнай інтрыгай была, каму з уладальнікаў 237 заявак усміхнецца ўдача і ён атрымае планшэт.

Аднак гэты хвалюючы момант рэдакцыя адцягвала як мага даўжэй. Спачатку былі аб'яўленыя вынікі шостага туру конкурсу. У ім перамог дзесяцікласнік з Вілейскага інтэрната **Аляксандр Ганаровіч**. Пасля ўсе паперкі з бланкамі былі складзеныя ў скрыначку і пачалі перамешваць усімі, хто ў гэты дзень быў на падвядзенні вынікаў у рэдакцыі: калектыў газеты, пастаянныя ўдзельнікі конкурсу сям'я Градзюшкаў у складзе мамы **Алены** і двух дочак **Ганны** і **Машы**, паэт і літаратар **Уладзімір Цанунін**, фатограф **Святлана Сеннікава**.

І вось нарэшце Уладзімір Цанунін выцягнуў услепую нумарок 209. Пераможцай аказалася вучаніца 8 "А" класа сярэдняй школы №5 Маладзечна **Юля Дземідовіч**.

Мы адразу звязаліся з настаўніцай, якая паставіла добрую адзнаку, пасля з самой пераможцай. Юля была настолькі ўражаная, што доўга не магла паверыць у сваю ўдачу, таму некалькі разоў перапытвалася, ці не жарт гэта. Супакойваем васьмікласніцу яшчэ раз: гэта не розыгрыш, у пачатку новай чвэрці пройдзе ўзнагароджанне ва ўрачыстай абстаноўцы.

Па выніках інтэрнэт-галасавання самым актыўным класам аказаўся 5 "В" гімназіі-каледжа мастацтваў у Маладзечне. У падарунак цэлы клас змог пачаставацца піцай у піцэрыі "Пінгвін".

А яшчэ "Рэгіянальная газета" вырашыла ўзнагародзіць самага актыўнага ўдзельніка і настаўніка, які паставіў за час конкурсу "дзясятачка" больш за ўсё выдатных адзнак.

Самым актыўным удзельнікам аказаўся **Ваня Жабцоў**, вучань 5 "А" класа сярэдняй школы №11 Маладзечна, які за час конкурсу прынёс у рэдакцыю 21 бланк удзельніка. Ваня атрымаў чатыры выдатныя адзнакі па беларускай мове, шэсць – па рускай мове, пяць – па французскай.

А самы актыўны настаўнік – **Наталля Бабовіч**, настаўніца англійскай мовы гімназіі-каледжа мастацтваў. Яна паставіла сваім вучням, якія ўдзельнічалі ў конкурсе, 12 выдатных адзнак.

Акрамя таго, Наталля Бабовіч была гераіняй нашага матэрыялу пра 1 верасня.

Яшчэ раз віншуем усіх удзельнікаў і пераможцаў. Узнагароды знойдуць сваіх герояў пасля асенніх канікулаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Макіяж зімой – дадатковая абарона скуры




**Калі дзеці з нецярпеннем чакаюць Новага года, каб атрымаць падарункі, то для большасці жанчын гэта час "Х", да якога б хацелася пахудзець, пахарашэць, прывесці сябе ў парадак.**

Спецыяльна для вас, мілыя жанчыны, на працягу двух месяцаў абсалютная чэмпіёнка Беларусі па дэкаратыўнай касметыцы, саўладальніца і дырэктар вучэбнага цэнтра "Сфера прыгажосці" **Святлана Прадуха** будзе даваць парады, што рабіць, каб падкрэсліць перавагі і схаваць недахопы з дапамогай касметыкі, што падыходзіць жанчынам з розным тыпам скуры і іншае.

На гэты раз спецыяліст дала парады, як засцерагаць і сілкаваць скуру восенню і зімой, а разгледзела асноўныя памылкі догляду за скурай.

Два памылковыя меркаванні

1. Зімой мяняецца тып скуры.

На самой справе тып скуры не мяняецца на працягу жыцця. З узростам альбо зімой скура становіцца больш сухой, таму неабходна карэктаваць догляд, але з улікам тыпу скуры.

Зімой выбірайце сродкі, прызначаныя для скуры суседняга тыпу, якая больш сухая, чым ваша.

У вас тлустая скура і летам вы карыстаецеся крэмам альбо гелем з матавым эфектам, зімой вазьміце лёгкі дзённы крэм для камбінаванай скуры. Для камбінаванай скуры набывайце крэмы з пазнакай "для нармальнай скуры". Уладальніцам нармальнай скуры можна перайсці на крэм для сухой скуры. Для сухой скуры лепш скарыстацца крэмамі для вельмі сухой скуры.

2. Зімой нельга карыстацца увільгатняльным крэмам, бо ў яго складзе вада, а яна на марозе замярзае, таму шкодзіць скуры.

На самой справе любы крэм утрымлівае ваду. Але ніводны не можа замерзнуць на скуры, таму што арганізм пастаянна падтрымлівае нармальную тэмпературу цела. І крэм хутка награваецца да тэмпературы скуры.

Зімой, калі скура схільная да страты вільгаці і становіцца больш сухой, неабходна выкарыстоўваць больш насычаны дзённы крэм, у якога засцерагальныя і спажыўныя ўласцівасці пераважваюць над увільгатняльнымі.

Кампаненты, якія садзейнічаюць увільгатненню скуры, можна раздзяліць на два тыпы: якія робяць больш маруднымі выпарэнні вільгаці і якія яе прыцягваюць. Сучасная касметыка звычайна ўтрымлівае у сваім складзе і тыя, і іншыя кампаненты. Аднак зімой трэба аддаваць перавагу крэму, у якім замаруджваецца выпарэнне вільгаці.

У цёплых памяшканнях у ацяпляльны сезон у паветры мала вільгаці, і кампанентам, якія здольны прыцягваць яе з паветра, у гэты перыяд асабліва прыцягваць няма чаго. Больш таго, калі ў памяшканнях вельмі сухое паветра, крэм пачынае выцягваць вільгаць са скуры. Таму многія жанчыны скардзяцца, што карыстаюцца крэмам, а скура сухая.

### Якім павінны быць зімовы дзённы крэм

Утрымліваць раслінныя алеі і вітаміны. Яны ўтвараюць засцерагальную плёнку і таму абараняюць ад празмернай страты вільгаці.

Вітаміны забяспечваюць дадатковае харчаванне скуры.

Непажаданыя кампаненты: мінеральныя алеі, вазелін, парафін.

Макіяж зімой – дадатковая абарона скуры. Аднак ён павінны быць паслойным: спачатку дзённы крэм, дайце яму ўсмактацца, затым танальная аснова і невялікая колькасць рассыпістай пудры.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Канстанцін Цыбульскі прымае віншаванні ад спявачкі Валянціны Альшанскай і кампазітаркі Алены Атрашкевіч.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Даша Цыбульская віншуе дзядулю.

# Вершы пра каханне і песні пра міліцыю: у Маладзечне прайшла вечарына Кастуся Цыбульскага

МАЛАДЗЕЧНА

**"Яшчэ жыве бацькоўскі зруб," – з цеплынёй згадвае ў адным з вершаў паэт-песеннік і кампазітар, наш зямляк Канстанцін Цыбульскі.**

Напэўна, таму сваю юбілейную вечарыну з пяшчотнай назвай "Я вечны парастак Радзімы" паэт зладзіў у Маладзечне. Недалёка ад горада, у вёсцы Забалацце, ён нарадзіўся. Вучыўся ў Лебедзеве. Працаваць пачынаў у Маладзечне на заводзе "Спадарожнік". І сёння творца не губляе сувязяў з роднай Маладзечаншчынай і землякамі, заўсёды ўдзельнічае ў культурным і літаратурным жыцці горада.

Адкрылі свята танцоры Палаца культуры. Яны і задалі лірычны, рамантычны тон усёй імпрэзе. Астатнія выступоўцы і вядучая **Ларыса Грынько** падтрымлівалі яго на працягу ўсяго канцэрта.

Ды і галоўны герой свята паўстаў перад намі сапраўдным рамантыкам. Хаця здавалася б, падпалкоўнік міліцыі павінны быць прагматычным і строгім.

Артысты тэатра Палаца культуры "Брава" па-майстэрску чыталі пра каханне і жаночую прыгажосць. Але найбольш пранікнёна інтымныя вершы гучалі з вуснаў самога паэта. І чуючы ласкавае "ты прыгожая ў максі і ў міні", шматлікія глядачкі не хавалі ўсмешкі.

Самотай былі прасякнутыя вершы, прысвечаныя матулі. Бо кажучы словамі паэта, сёння "дом пусты сустрэне стогнам".

Некаторыя песні на словы нашага земляка выканалі музыканты ўзорна-паказальнага аркестра ўнутраных войскаў МУС. Паэт, як аказалася, знаходзіў натхненне і на працы. Таму ў яго творчасці ёсць і вершы, і музычныя творы, прысвечаныя міліцыі. А "героям" адной з песень стаў нават клён, які расце на пляцы.

Песні на словы **Кастуся Цыбульскага** выконвалі гурты "Пліса", "Бяседа", "Дубравачка", барды і сябры **Яўген Хаменка, Уладзімір Цанунін**, спевакі **Ігар Задарожны, Аляксандр Саванец**, **Дзмітры Данілін, Таццяна Валахановіч.**

Спявачка **Валянціна Альшанская** і кампазітар **Алена Атрашкевіч** уразілі юбіляра і гледачоў прэм'ерай песні "Журавель", напісанай на словы Кастуся Цыбульскага. А каб прыўзняць настрой гледачоў пасля журботнага "Жураўля", Валянціна выканала беларускую народную вясельную песню "Чобаты".

Сваё слова сказалі і землякі. Паэтка **Святлана Капуцкая** сваімі вершамі запрасіла паэта вярнуцца ў дзяцінства. А творца **Міхаіл Лапушынскі** прачытаў жартоўнае прысвячэнне юбіляру.

А ведаеце, хто "сарваў" самыя гучныя апладысменты? **Дар'я Цыбульская**. Пакуль не артыстка і не спявачка, а проста... унучка паэта. Непасрэдныя вершаваныя радкі і дзіцячая ўсмешка ўразілі гледачоў ці не больш за таленавітага дзядулю.

У адказ **Канстанцін Пятровіч** прачытаў пяшчотны верш пра Дашу. І дарэчы, кожнага выступоўцу паэт прадстаўляў адмыслова напісаным чатырохрадкоўем.

Часта мы чуем збітую фразу пра тое, што таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. З гэтым цяжка паспрачацца.

Але вечарына Кастуся Цыбульскага перакапала ў іншым. У тым, што паспяховы чалавек паспяховы ва ўсім. У сям'і, на працы, у творчасці і ў сяброўскіх стасунках.

Аксана ЯРАШОНАК.

**Даведка "РГ": Канстанцін Пятровіч Цыбульскі.** Нарадзіўся 7 мая 1956 года на хутары Забалацце Маладзечанскага раёна. Пасля службы ў арміі (1976 год) паступіў на падрыхтоўчыя курсы пры філфаку БДУ. Ад 1977 да 1982 года – студэнт БДУ. Працаваў інспектарам па справах непаўналетніх у Слуцкім РАУС. У 1998 годзе пераведзены на пасаду кіраўніка прэс-цэнтра УУС Мінгарвыканкама, дзе працаваў да 2004 года. Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы. Цяпер старшыня секцыі музыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

## Гаварылі пра восень і гісторыю фатаграфіі

ВІЛЕЙКА

**У цэнтры дадатковай адукацыі зладзілі пасяджэнне культурна-асветніцкага аб'яднання "Світанак".**

Чаму менавіта канец кастрычніка абралі сябры аб'яднання для свайго мерапрыемства?

Таму што адыходзіць восенькі лістапад – самая прыгожая, самая рамантычная пара года. Ёй прысвечана мноства вершаў. Пра яе складзена нямала лірычных песень.

Тэме восені і была прысвечаная ўступная частка пасяджэння. Члены літаратурнага аб'яднання "Пралеска" **Паліна Гардзевіч** і **Паліна Касцевіч** прачыталі ўласныя вершы пра восень. Літаб'яднанне працуе ў гімназіі "Логас" пад кіраўніцтвам настаўніцы **Алены Мачэль.**

Восені былі прысвечаныя і песні ў выкананні салістаў вакальнага гурта "Званочкі" і фальклорнага гурта "Верасок" Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі.

Паказ відэа з фотаздымкамі маляўнічых восеньскіх пейзажаў падвёў пасяджэнне да асноўнай яго часткі з агульнай назвай "Фотаздымак у аб'ектыве часу".

**Вольга Коласава**, старэйшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея, паказала ўдзельнікам аб'яднання першы фотаздымак з панарамай Вілейкі, расказала пра фоталетапіса горада **Берку Бермана**.

Таксама членам аб'яднання паказалі рарытэты: фотаапараты 1960-80-х гадоў мінулага стагоддзя.

Не менш цікавую выставу фотаапаратаў, а таксама сапраўдных шэдэўраў фотамастацтва прадставіў фатограф **Аляксей Камінскі**. Ён расказаў навучэнцам пра ўсе тонкасці сучаснага фотамастацтва ад фотастужкі да лічбавай фатаграфіі.

Сяргей РЫЖЭВІЧ, кіраўнік культурна-асветніцкага аб'яднання "Світанак", культарганізатар Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.


Фота забяспечана Сяргеем РЫЖЭВІЧАМ.

Гучыць песня пра восень.

## ВІНШАВАНКА

**Паважаны Васіль Васільевіч ІВАНЧАНКА з Маладзечна!**

Шчыра віншуем з днём нараджэння!

*Примите наши поздравленья,*
*Частицу нашего тепла,*
*Желаем крепкого здоровья,*
*Уюта, счастья и добра!*

**З павагай, калегі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ВАЗ-21013 па запчастках. Т. (8-033) 6962074.*
- ВАЗ-2107, 1992 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 2639924.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- ЗІЛ-130, дызель, Д245, самазвал-сяльгаснік, доўгі кузаў, добры стан. Т. (8-029) 8777563.
- Івеко-Турба-Дэйлі 49-10, 1994 г.в, 2,5ТД, добры стан, 10000 руб., торг. Рэно-19, 1990 г.в, 1,7 бензін, добры стан, 1900 руб. Т. Вэлком (8-029) 3156897.
- Опель-Вектра, 2001 г.в., 2,0 ТДІ, серабрысты седан. Т. (8-029) 5023219.*
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-407, 2007 г.в. Т. (8-029) 5745917.
- Рэно-Лагуна 3 з Францыі, 2010 г.в.,1,5 цдi, хэтчбэк, белы, усе опцыі, без прабегу па РБ, 14000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 6870898.
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- Гума б/к, зіма, R13, камплект на ВАЗ дыскаў. Т. МТС (8-029) 7602038.
- Гума зімовая 195х65 R15 – 4 шт., б/к, 5000 км, 195х75 R16 С – 4 шт., б/к. Дыскі літые БМВ-3 R 16. Т. (8-029) 6666855.*
- Гума зімовая Nokia 195/65 R15 – 4 шт. з жалезнымі дыскамі. Вагончык для будматэрыялаў. Т. Вэлком (8-044) 5749372.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*



- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,12 агул. плошчай 42 кв. м, 5/5, 40 000. Т. Вэлком (8-029) 3551007.
- 2-пакаёвая кватэра ў агр. Любань з еўрарамонтам. Т. (8-029) 8460439.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Незалежнасці. Т. (8-029) 5081223.*
- 3-пакаёвая кватэра 108,6 кв.м у Вілейцы. Т. 6795426, (8-029) 2524842.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 6; цагляны, 4/9, 67,7-38,7-8,2. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у г/к 21 Маладзечна. Тэрмінова! Т. (8-033) 6332309.
- Гараж у ГК №14 г. Маладзечна, вул. Новы Свет. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.
- Гараж у ГК-12 у Маладзечне. Т. (8-029) 8583149.
- Дача, лазня ў в. Прынта Вілейскага раёна, лес, грыбы, ягады, рыбалка (р. Нарачанка). Т. МТС (8-029) 2521686.*
- Дом недабудаваны ў Маладзечне, 130 кв.м, участак 0,15. Часовая пабудова. Магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.*
- Дом новы ў в.Снежкава. Т. МТС (8-029) 2516187.*
- Дом у в. Цынцавічы. Т. (8-033) 6056455.
- Дом у Насілаве па вул. Гастэлы. Тэрмінова! Т. (8-0176) 726385.
- Дом, лазня, калодзеж у в. Кардон Вілейскага раёна. Лес, рэчка побач. Т. (8-029) 2928728.

### ЗДАМ

- 1 пакой у 3-пакаёвай кватэры, 6 мікраён у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***



- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з сан. вузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з сан. вузлом, асобны ўваход, можна пад офісы /вытворчасць/ склад. Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне. ІП Судніковіч В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).
- У арэнду памяшканне 32 кв.м у цэнтры альбо прадам. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*
- У арэнду памяшканне ў Вілейцы, 80 кв.м, 2 паверх, асобны ўваход. Магчыма здаваць па частках. Т. (8-029) 7613299, (8-029) 3506947.*

### НАЙМУ

- 1-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Т. (8-033) 6692292.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў, вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Консультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*





**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду, нафту, газ. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне тэрыторыі, месцаў пахавання. ІП Пякарскі А.П. УНП 691897647. Т. (8-029) 2779204.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

**ПРОДАЮТСЯ БАРАНЫ И ОВЦЫ**
5 рублей за 1 кг
живым весом
Вилейский р-н
Тел (8029) **676-93-59**
КФХ «Капустинское» УНП 691175086

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА, ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Блокі г/с вытворчасці Смаргоні, цэгла, пясок, ФБС. Дастаўка. ПП "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*

• Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*

• **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГБ-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м п., вугалок 40 м п., труба профільная 300 м п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар самаробны, дызель, гідраўліка, кабіна, 1500 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 3790419.*

КУПЛЮ
**коня, КРС**
и др.
Т. **(8-044) 777-44-48, (8-044) 484-65-90, (8-029) 393-92-56.**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
Рассрочка 8-029-570-22-12
без % 8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Піяніна новае лічбавае Yamaha P-115. Ніякіх дэфектаў. 1280 руб. Т. (8-029) 2742837.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова. Т. (8-029) 5585311, (8-0176) 727370.

• Карова. Т. (8-029) 9416028.

• Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*

• Конь, цялушка, бык у Маладзечанскім раёне. Т. (8-029) 8585698.

• Падсвінкі в'етнамскія. Т. (8-029) 9714041.*

• Парасяты в'етнамскія, прышчэпленыя. Т. МТС(8-029) 5768755.*

• Парасяты дамашнія. Т. (8-029) 3894560.

• Парасяты. Т. (8-025) 5334173.*

• Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

• Парасяты в'етнамскія. Мядзел. Т. (8-029) 8579803.

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, чыстапародныя, узрост 3 месяцы. Т. (8-029) 7046266.

• Шчанюкі нямецкай аўчаркі. Т. (8-029) 8732780.

**Іншае**

• 2 тоны сена, самавываз з в. Турэц-Баяры. Т. (8-029) 6870898.

• 5 і 6 лістапада ў магазіне Second Hand у Вілейцы па вул. Савецкай, д.41 (будынак ДТСААФ), скідка на ўвесь тавар 20%. ЧУП "ВіЛуГен" УНП 691174184.

• Батарэі чыгунныя, 3,60 руб. Т. (8-029) 7697200.*

• Бульба, плуг двухкорпусны Т-25. Т. (8-044) 4668615.

• Ванна чыгунная б/к у добрым стане. Т. (8-029) 2558386.

• Зруб з круглякa 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*

• Кіёск без месца, нядорага. Т. (8-029) 7748206.

• Кацёл-печ у лазню, 360 руб. Т. (8-025) 6449793.

• Конскія калёсы (телега) на гумовым ходзе, у выдатным стане. Маладзечна. Т. 98-029) 7651373.

• **КУРТКАМАНІЯ ў "АДЗЕННЕ-ОПТ"**. Выбар ад А да Я. Самыя смешныя цэны. Таксама ёсць пальчаткі (5 руб), байкі (15 руб), джынсы (22 руб). Дом быту, Маладзечна, вул. Будаўнікоў,15-а, 2 паверх. ІП Каўзовіч А.С. УНП 691886067.*

• Магазін "Абоі" у Вілейцы по вул. Савецкай, д.21. Новае паступленне тавару! Нізкія цэны! ІП Барысенка Л.А. УНП 600318347.*

• Памперсы для дарослых, нядорага. Маладзечна. Т. (8-029) 8781679.

• Салодкія навагоднія падарункі Яшкіна! Цукеркі па цане вытворцы (РФ)! Па б/н разліку. ІТУП "Кдв Бел" УНП 191070763. Т. (8-029) 6722765.*

• Сена, 2 тоны, самавываз з в. Турэц-Баяры. Т. (8-029) 6870898.

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Матаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.

• Матаблок ці міні-трактар у любым стане. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

• Халадзільнік, маразільнік, тэлевізар, электраінструмент, ноўтбук, б/к. Т. (8-029) 5329229.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёлу**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• Антыкварыят дорага, мэблю, манеты, іконы, самавар і інш. Т. (8-029) 5329229.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Альтанку, арэлі, бытоўку, арматуру, рыштаванні (леса). Т. (8-029) 5329229.*

• Апілкі ў вялікіх аб'ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

• Біжутэрыю: пацеркі, брошкі, кольца, гадзіннікі. Т. (8-029) 5329229.*

• **БОЧКУ ПЛАСТЫКАВУЮ** аб'ёмам не менш за 250 л. Т. (8-029) 6550799.*

• Вазьму на рэалізацыю новае адзенне. ІП Каўзовіч А.С УНП 691886067. Т. (8-029) 5329229.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, сайгака і аленя. Т. Вэлком (8-029) 9834570, МТС (8-033) 6668053.*

### АДДАМ

• Рыжых кацянят у добрыя рукі. Т. (8-029) 2771666, (8-0176)769667.*

# Бульбу, калдуны і кілбаскі гатавалі ў вілейскім каледжы

ВІЛЕЙКА

**Вы ведаеце колькі страў можна прыгатаваць з бульбы? – пыталася гераіня вядомага фільма.**

На гэта пытанне спрабавалі адказаць удзельнікі традыцыйнага кулінарнага шоу "Бульба-фэст" у вілейскім каледжы.

У майстэрстве гатаваць спаборнічалі тры каманды. Усе ўдзельнікі навучаюцца ў каледжы на повара.

Каманда "Бульбаш" складалася з **Таццяны Дорах**, **Яўгена Субача**, **Юліі Санюк**. **Алёна Ермаковіч**, **Жанна Яшэўская**, **Андрэй Прохарчык** стварылі каманду "Усе Бульбахуры". А **Анастасія Андрыеўская**, **Арына Мароз**, **Улад Галуза** назвалі сябе "Бульбаедамі".

На суд журы ўдзельнікі прапанавалі бульбу па-беларуску, калдуны і бульбяныя кілбаскі. Апетытны выгляд і смак усіх страў ацанілі высока.

Але лепшай стравай прызналі традыцыйныя беларускія калдуны. Каманду "Бульбакухары", якая іх гатавала, узнагародзілі дыпломам 1 ступені.

У падтрымку каманды навучэнцы разам з майстрамі вытворчага навучання **Алай Дарошкай**, **Аленай Фірс**, **Тамарай Беляўцовай**, **Вікторыяй Свячко** падрыхтавалі выставу страў з бульбы.

Прыгожы антураж выставе і глядзельнай зале стварыла майстар на ўсе рукі **Наталля Сянько**, музычную падтрымку забяспечыў **Аляксандр Высоцкі**.

Пра гэта расказала педагог-арганізатар вілейскага каледжа **Святлана Мацукевіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Пазнаёміліся з гісторыяй аўтамабіляў і пабачылі рэтратэхніку

ВІЛЕЙКА

Нестандартны ўрок для навучэнцаў вілейскага каледжа правёў майстар **Эдуард Васькевіч.**

Як расказала педагог-арганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**, урок складаўся з дзвюх частак. Спачатку навучэнцы пазнаёміліся з гісторыяй узнікнення свята аўтамабіліста, а таксама аўтамабілямі, заводамі па іх вытворчасці, дарогамі сваёй краіны і краін замежжа.

У другой частцы ўрока навучэнцы наведалі музей рэтратэхнікі **Барыса Цітовіча** ў Забродздзі. Экскурсію зладзіў Барыс Цітовіч.

Па словах Эдуарда Васькевіча, яго ўразіла, што шмат экспанатаў не толькі добра захаваліся знешне. Яны маюць добры тэхнічны стан. Выдатна, што такі музей існуе на Вілейшчыне, лічыць педагог.

Шмат цікавага і карыснага ўзялі з гэтай экскурсіі навучэнцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да "пад ключ". Т. (8-044) 5724916.*

• Цесляра (плотніка). Досвед: ПВХ-адкосы, падшыва, ламінат, сайдынг, дах. Т. (8-044) 5976827.

• Арганізацыі на пастаянную работу патрабуюцца швачкі, прасавальшчыцы з досведам працы. Т. (8-029) 3482283.*

• ТАА "Сафіт-электрасэрвіс" на пастаянную работу патрабуюцца: майстар слабатокавых сістэм сетак, зваршчык оптаволакна. Т. (8-029) 7791319, (8-044) 7791319, (8-01771) 23751.*

• Фасадчыкі, аддзелачнікі (вент. фасад). Т. (8-033) 3015119.*

# Хто каго выхоўвае: мы дзяцей, ці яны нас?

## Сваімі разважаннямі дзеляцца тры жыхаркі Маладзечаншчыны

**Мець добра выхаваных дзяцей мараць кожныя бацькі. Але што хаваецца за гэтымі словамі? У кожнай сям'і свой адказ на гэта пытанне. І кожны з іх пасвойму слушны, паколькі адназначна правільнага падыходу ў выхаванні няма. Колькі дзяцей – столькі і падыходаў.**


Фота забяспечана Аляксандрай ПАРАХНЕЙ.

Маладзечанка Рагнеда з дачкой Торай. "Дзіця ніколі не застанецца ручным, яму захочацца свабоды і прасторы. Таму не трэба шкадаваць пяшчоты", – упэўненая маладая маці.

### Марына Рапацэвіч, вёска Крыніца Маладзечанскага раёна

У нас з Сяргеем двое дзетак: Лерцы пяць гадоў, Ромку – дзесяць месяцаў. Я сама па адукацыі бухгалтар, а муж працуе электрамантажнікам у Мінску.

Цяпер самае цяжкае для мяне тое, што складана дачцэ ўдзяляць увагу, бо Ромка пакуль вельмі ручны. А трэба яшчэ час для мужа, для спраў па доме. Да таго ж трымаем гаспадарку: двух парсючкоў, казу, трусоў і курэй. Добра, што мама Сяргея дапамагае. А калі раптам вольны час з'яўляецца – п'ю ГАРАЧЫ чай. Звычайна за клопатамі я паспяваю толькі халодны піць.

Лера вельмі любіць браціка, дзеліцца з ім усім. Іх любімая гульня цяпер – хованкі. Яна накрывае яго ложак пледам, а пасля падымае яго і зазірае з розных бакоў. А ён ад яе адпаўзае.

З Сяргеем у нас розныя погляды на выхаванне, таму часам узнікаюць цяжкасці. У мяне больш мірны падыход, а ён адразу, каб пакараць. Так што часам я спрабую і яго выхоўваць, але не заўсёды атрымоўваецца. Калі бачу, што дзеці сапраўды заслугоўваюць пакарання, напрыклад, тэлефон разбілі, то падтрымаю.

За такія рэчы ставім у кут, пазбаўляем салодкага, цацак альбо мульцікаў. Аднойчы, калі падчас гульні Лера разбіла Ромку нос, то стаяла ў куце ледзь не паўдня. А калі ваду разліла ці гучна крычыць, то за гэта не варта караць.

Але ўсё бессэнсоўна, калі дзіцяці не патлумачыць, за што пакаранне. Часам і не адзін раз. Бо не да кожнага дарослага з першага разу даходзіць. Я гэта ўжо зразумела, а муж пакуль не.

Для дзяцей галоўнае не цацкі і адзенне, а ўвага і падтрымка бацькоў. Упэўненасць, што яны будуць побач нягледзячы ні на што.

Пасля трох гадоў з Леркай стала складаней – яна ўжо мае сваё меркаванне. Можа нешта не апрануць, бо ёй гэта не падабаецца, хаця рэч прыгожая. Раней я спрабавала Лерцы плесці косы, пераконвала, а яна хацела хвост. Але навошта псаваць нервы і сабе, і дзіцяці, калі можна зрабіць хвост?

Таксама яна пачынае задаваць цікавыя пытанні. Калі разбіць тэлевізар, то можна патрапіць унутр, на тэлебачанне? Я расказвала, што не, трэба ехаць у спецыяльную студыю. Цяпер Лерка просіць туды паехаць.

Затое яна ўжо можа сказаць, калі ў яе нешта баліць. Таксама мае свае абавязкі: кветкі паліць, курачак пакарміць, ложак засцаць, прапыласосіць.

Я хачу, каб мае дзеці любілі і паважалі бацькоў, цанілі тое, што маюць, і паважалі чалавечую працу. І яшчэ – каб сябе любілі. Хацелася б, каб праз гадоў дзесяць у нас з дачкой былі адносіны як у сябровак. Каб яна мне давярала. Ромка хіба больш з татам будзе кантактаваць, калі вырасце, а я буду падтрымліваць яго ва ўсім. І яшчэ хачу, каб дзеці былі самастойнымі і паспяховымі. Каб ведалі, чаго хочуць, і ішлі да сваёй мэты.

### Алена Лемантовіч, пасёлак Чысць Маладзечанскага раёна

Наша сям'я складаецца з чатырох чалавек: я, муж Юры і двое дзяцей – Алеся і Вадзім. Я працую намеснікам дырэктара ў сярэдняй школе, муж – мантажнік у будаўнічай кампаніі. Сыну 13 гадоў, ён вучыцца ў сёмым класе, а дачка ўжо студэнтка, ёй 19.

Па адукацыі я псіхолаг і пэўны час працавала па спецыяльнасці. Гэта дапамагае ў выхаванні дзяцей. Да таго ж практычна штодзённа даводзіцца даваць парады сябрам, калегам, бацькам нашых вучняў, калі ў іх узнікаюць праблемы.

Наш з мужам асноўны прынцып у выхаванні – спалучаць узаемапавагу і патрабавальнасць. Мяркую, што немагчыма выхоўваць, не прад'яўляючы патрабаванняў. Але яны павінны быць гуманнымі і адпавядаць інтарэсам не толькі сям'і, але і дзіцяці.

Усе праблемы вырашаем у канструктыўным дыялогу. Хаця гэта не заўсёды атрымліваецца, бо досвед прыходзіць з гадамі.

Я памятаю, як мяне саму выхоўвалі бацькі. Маці ўсё жыццё працавала аграномам, падчас пасяўной і ўборачнай працавала без выхадных. Памятаю сваю радасць у тыя рэдкія дні, калі сям'я збіралася разам. Таму стараюся сваім дзецям аддаваць як мага больш часу і ўвагі.

Калі яны былі малыя, мы жылі ў вёсцы, з выхаваннем дапамагалі бабулі. Тады мы часта хадзілі ў музеі, на выставы. Усе гэтыя моманты захаваліся на фотаздымках, якія мы захоўваем у альбомах.

Цяпер час, праведзены разам, куды даражэйшы. Сумесныя святы і канікулы мы стараемся напоўніць падзеямі, сустрэчамі з роднымі. А яшчэ любім глядзець старыя савецкія камедыі.

Я раздзяляю захапленні дзяцей музыкай, спортам, творчасцю. Магу наняваць мелодыю, якую слухалі разам з дачкой. З сынам "адпрацоўваем" прыёмы грэка-рымскай барацьбы. Праўда, з-за смеху ў мяне не атрымліваецца перамагчы.

Для нас важна ведаць сяброў нашых дзяцей. Мы не толькі іх ведаем, але і любім. Яны частыя госці ў нашым доме.

Калі ўзнікаюць праблемныя моманты, стараемся кожны выпадак разглядаць дэталёва, аналізаваць прычыны і прагназаваць далейшыя паводзіны. Усе пакаранні, якія дзіця атрымала ў дзяцінстве, запамінаюцца яму на ўсё жыццё. Спадзяюся, нашым дзецям не будзе чаго прыгадваць. Хаця… Запытаюся ў іх праз колькі год.

Нашы дзеці ніколі не прасілі ў нас аб нечым істотна матэрыяльным. Яны заўсёды ўдзячна прымалі тое, што мы з мужам маглі даць. Але калі ў будучыні ім спатрэбіцца наша дапамога, то мы будзем рады дапамагчы.

Мы ганарымся нашымі дзецьмі. Тым, што Алеся адвучылася ў Мінскім дзяржаўным абласным ліцэі і цяпер вучыцца ва ўніверсітэце. Тым, што Вадзім займаецца грэка-рымскай барацьбой і мае ўзнагароды. А яшчэ тым, што нашы дзеці вельмі любяць сваіх бабуль і дзядулю.

### Рагнеда, Маладзечна

Наша сям'я складаецца з мамы, таты Базыля і дачкі Торы. Сям'я творчая, але я цяпер займаюся дачкой. Торы тры гады і шэсць месяцаў.

З мужам у нас шмат у чым супадаюць погляды на выхаванне. Напрыклад, стасунак да садка. Гэта месца, куды трэба аддаваць дзіця толькі пры вялікай неабходнасці. Шкада, што большасць так робіць. Мы лічым, што першыя гады дзіця мусіць быць разам з бацькамі, уваходзіць у іх рытм жыцця. З першых дзён разам з імі хадзіць да сяброў, прымаць гасцей, ездзіць паўсюль. Вядома, калі дзіця гатовае да гэтага, тут да кожнага свой падыход.

Яшчэ важны момант размовы – з дзіцем трэба размаўляць, а не закідваць яго ў ложак з цацкамі. Я з Торай размаўляла пастаянна з нараджэння, хаця ад гэтага, вядома, стамляешся. У выніку яна хутка пачала гаварыць і ў два гады ўжо выказвала свае думкі вельмі па-даросламу для яе ўзросту. Я не прыхільнік ранняй адукацыі, але многія рэчы Тора ўлоўлівае без асаблівых заняткаў.

Таксама ў нашай сям'і ёсць прынцып сумеснага з дзіцем сну, доўгага кармлення грудзьмі і павагі да дзіцяці.

Я лічу, што Тора мудрая дзяўчынка і часта вучыць мяне, як сябе паводзіць, як бы смешна гэта ні гучала. Калі я пры ёй пасварылася з сяброўкай, Тора мне сказала: "Мама, з сяброўкамі не сварацца! Трэба, каб ты папрасіла прабачэння!" Ці такі дыялог з бабуляй: "Бабуля, у цябе ёсць лепшая сяброўка? – Так, Зіна. – А што вы разам робіце? – Па крамах ходзім. – Як суумна…"

Яшчэ яна вельмі клапатлівая і заўсёды за мяне заступаецца перад іншымі. Гэта прыемна. Вядома, дзіця робіць жанчыну больш упэўненай, моцнай, выклікае жаданне быць прыгожай.

Я заўсёды была супраць пакаранняў, але без гэтага не змагла абысціся. Звычайна пакідаем дачку без салодкага і мульцікаў.

Першае, з чым сутыкнуліся – нежаданне апранацца. Гэта была цэлая бяда! Яна і цяпер ёсць, але ўжо з Торай можна дамовіцца.

Калі пачыналі даваць цвёрдую ежу, высветлілася, што наша дзіця нічога не любіць. Выйсце такое: не даваць тое, што не любіць, і падвоіць колькасць таго харчу, што любіць. Тора вельмі любіць ягады і садавіну, таму яны заўсёды ў нас на стале.

Праблемы вырашаем размовамі. Звычайна гэтага дастаткова, але і істэрык мы шмат наслухаліся. Агулам я раблю выснову, што большасць скандалаў – з-за голаду ці стомленасці дзіцяці.

Існуе розніца ў падыходзе мамы і таты да выхавання. Дзіця патрабуе пяшчоты, патрэбныя гэтыя смешныя гульні, што паўтараюцца па сто разоў, а не кожны мужчына можа сабе гэта дазволіць. Але мы з мужам складаныя пытанні заўсёды вырашаем разам.

Я лічу, што мы нараджаем дзіця не для таго, каб аддаваць яго бабулям, нянькам ці садкам. Дзіця павінна максімальна шмат часу праводзіць з бацькамі. Шкада, што ў нас нельга браць дзяцей з сабой на працу!

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Пра сучасных паэтаў вучні пытаюцца ў гугла

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Хто лепш за ўсё арыентуецца ў сучаснай літаратуры рэгіёна? Напэўна, тыя, хто яе стварае, выкладае і прапануе чытачу.**



Таму на "круглы стол" "Перспектывы развіцця літаратуры ў рэгіёне" мы запрасілі паэтак з Маладзечна **Таццяну Атрошанку**, **Марыю Бельскую**, **Святлану Капуцкую**, паэта з Вілейкі **Уладзіміра Цануніна**. Прынялі ўдзел таксама настаўніца беларускай мовы і літаратуры маладзечанскай школы №2 **Таццяна Іваненка** і загадчыца інфармацыйнага аддзела цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Багдановіча **Таццяна Закрэўская**.

### Літаратура ў Вілейцы. Дзень сённяшні

Па словах паэта, барда, настаўніка Уладзіміра Цануніна, на Вілейшчыне шмат людзей, здольных да літаратурнай творчасці. Здзіўляе працаздольнасцю **Барыс Манцэвіч**. Шмат піша **Мікола Кутас** з Ілы. Лепшых вершаў пра каханне, чым **Тамара Пунінская** з Абадоўцаў, на думку пісьменніка, не стварае ніхто на Вілейшчыне. Сумяшчае настаўніцкую працу з літаратурай **Віктар Кажура**. Нядаўна прэзентавала сваю кнігу віляйчанка **Людміла Пукела**.

### Таццяна Атрошанка: пісьменнік павінны крэатывіць

Тэма перспектыў развіцця літаратуры ў рэгіёне – двухбаковая, упэўненая паэтка **Таццяна Атрошанка**:

– Калі ў мяне спытаюць, ці ёсць таленавітыя людзі ў нашых мясцінах, я адкажу: адназначна ёсць. Іншая справа, што іх трэба заўважыць. А заўважыўшы, падтрымліваць.

Сённяшняе жыццё, лічыць Таццяна, патрабуе ад пісьменніка дынамікі, стварэння новых форм, праектаў:

– Я не кажу, што традыцыйнасць – гэта дрэнна. Традыцыйнасць – гэта надзейна.

У традыцыйным рэчышчы ствараюць **Тамара Аўсянікава**, **Тамара Бярэзіна**, **Святлана Капуцкая**, **Алег Шчукін** і іншыя.

Наватарамі можна лічыць пісьменніка **Валерыя Маркелава** і мастака **Васіля Бурава** – аўтараў праекта "Маляванае слова".

Сярод нетрадыцыйных творцаў асабліва вызначыўся маладзечанец **Уладзімір Садоўскі**. Пра **Міхала Клеафаса Агінскага** пісьменнік расказаў у жанры зомбі-харала "1813" з мерцвякамі ды іншымі фантастычнымі істотамі. Ужо выйшла электронная кніга.

– Я не ведаю, ці прачытала б я звычайны гістарычны раман пра Агінскага, – далучылася да размовы пісьменніца Марыя Бельская, – а вось твор Садоўскага ўжо пачала і ведаю: прачытаю.

### Як крытыку казаць сваё "фі"

У ходзе "круглага стала" ўзнікла пытанне, якой павінна быць літаратурная крытыка.

На думку Уладзіміра Цануніна, не варта замоўчваць нейкія відавочныя хібы ў літаратурным творы.

– **Аляксей Пысін** некалі казаў, што калі ў вершы ёсць хоць адна дзеяслоўная рыфма, яго трэба скамячыць і выкінуць.

Паэтка Святлана Капуцкая пачала пісаць у сталым узросце. І, па яе словах, не была падрыхтаваная да сур'ёзнай крытыкі. І крыўдзілася, калі ёй гаварылі пра недахопы ўласных твораў. Пасля зразумела, што на крытыку не варта крыўдаваць. Але ўсё ж яна павінна быць тактоўнай:

– І сёння непрыемна ўспамінаць, калі я чытала свае творы, а з-за спіны чула крыўдныя выказванні.

Таццяна Атрошанка, па яе словах, лагодны крытык:

– Некалькі разоў да мяне прыходзіла дзяўчына з вершамі. Першы раз я прачытала і сказала: не тое. І ў другі раз так. А вось у трэці раз ужо было "тое". Уладзіміру Садоўскаму я таксама казала сваё "фі". А ў выніку твор атрымаўся цікавы.

### Хто ён – прафесійны пісьменнік?

Што сведчыць аб прафесійнасці пісьменніка. Прыналежнасць да літаратурных арганізацый? Прэміі? Кніжкі?

– Дакладна не прэміі, – лічыць Уладзімір Цанунін. Любая прэмія – гэта латарэя.

А вось калі пісьменнік сваёй творчасцю можа зарабляць грошы – яго можна разглядаць як прафесійнага.

Па словах Таццяны Атрошанкі, прафесійнасць пісьменніка – гэта маральны аспект. Калі паэт мае шмат прыхільнікаў сваёй творчасці, гэта і сведчыць аб прафесіяналізме.

– Сёння прафесійны пісьменнік павінны быць яшчэ і маркетолагам. Сам "прасоўваць" сваю творчасць у час сустрэч, акцый, пляцовак у інтэрнэце, – падзялілася сваімі назіраннямі Марыя Бельская.

### Як пісьменніку выступаць перад чытачамі?

**Уладзімір Цанунін**:

– Я часта выступаю ў школах і нават у дзіцячых садках. Заўсёды бяру з сабой гітару і вершы чаргую з песнямі. Звычайна мы выступаем з пісьменнікамі Віктарам Кажурам і **Ірынай Карнавухавай**. Ніхто з нас не паўтараецца. Ірына чытае дзецям уласныя казкі. Віктар Кажура гуляе з імі ў вершаваныя гульні. Лепшая ўдзячнасць, калі ў канцы сустрэчы гэтыя малыя бяззубыя дашкольнікі цягаюць цябе за пінжак і просяць пачытаць яшчэ.

**Марыя Бельская:**

– Галоўнае, выступаць з душой. Можна і гадзіну вершы чытаць. Але пытанне: як? Проста "бу-бу-бу" ці неяк незвычайна. Важна таксама знайсці сваіх слухачоў. Памятаю, як я выступала ў Палацы культуры і сказала, што мне падабаецца фэнтэзі. І гляджу: у некалькіх дзяўчынак у зале вочкі загарэліся.

### Кнігу разгорнеш – а чытаць няма чаго

Калі паэт знаходзіцца толькі ў коле паэтаў, гэта няправільна, лічыць Таццяна Закрэўская.

Таму бібліятэка стараецца пазнаёміць дзяцей з творцамі рэгіёна і з сучаснай літаратурай увогуле:

– Мерапрыемствы мы ладзім у форме інтэлектуальных гульняў. Тут жа, на выставе, прадстаўляем кнігі. Пагартаўшы іх, удзельнік можа адказаць на прапанаванае пытанне.

Каб наблізіць творцаў да чытачоў, бібліятэка зладзіла акцыю "Маладзечаншчына літаратурная". Разам з творцамі рэгіёна супрацоўнікі бібліятэкі ездзяць выступаць у вёскі Маладзечанскага раёна.

Па словах Таццяны Закрэўскай, у час такіх выступленняў яна заўважае, што на вёсцы ў людзей больш трапяткія адносіны да пісьменнікаў. На іх пазіраюць з павагай і захапленнем.

Часам творцы прыносяць свае кнігі ў бібліятэку, прапануюць набыць.

– Калі кніга добрая, мы заўсёды ідзём насустрач, – распавяла Таццяна Іванаўна. – Але бываюць і такія выпадкі, што кнігу разгорнеш – а чытаць няма чаго. Такія творы мы, канешне, не можам паставіць на паліцы бібліятэкі.

### Літаратура ў школе: чаму дзеці не ведаюць маладзечанскіх паэтаў

Калі пытаешся ў дзяцей, якіх паэтаў, звязаных з Маладзечаншчынай, вы ведаеце, называюць **Янку Купалу** і **Максіма Багдановіча**. Кажуць, ён недзе тут пабач быў.

– Дзякуй Богу, хоць гэтых ведаюць. А пра сённяшніх паэтаў яны ўвогуле нічога не чулі, лезуць пытацца ў гугла, – расказала настаўніца маладзечанскай школы №2 **Таццяна Іваненка**.

Па словах настаўніцы, у школе дзеці прывыклі чуць пра пісьменнікаў як пра людзей, якія некалі даўно жылі і пісалі. Калі ж пачынаеш знаёміць з творчымі сучаснікамі, дзеці кажуць: "О! Дык яны ж звычайныя, жывыя".

Зацікаўленнасць вучняў літаратурай шмат у чым залежыць ад асабістай ініцыятывы настаўніка:

> **– У суботу я на дзень пакідаю ўласных дзяцей і мужа, бо разам з вучнямі еду ў Мінск на літаратурны конкурс "Паэтычны ветразь", – падзялілася сваімі планамі Таццяна.**

Малая колькасць урокаў літаратуры на тыдзень – балючая тэма, дзеліцца настаўніца. Цяжка даць "Новую зямлю" **Якуба Коласа** за два ўрокі. Настаўніца сказала, што хочацца, канешне, знаёміць і вучняў, і ўласных дзяцей з творамі сучаснай літаратуры. Але гэта жаданне адразу знікае, калі заходзіш у кнігарню і бачыш, якіх грошай каштуе тоненькая беларускамоўная кніжка ў мяккай вокладцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Уладзімір Цанунін.



Святлана Капуцкая.



Марыя Бельская.



Таццяна Атрошанка.



Таццяна Іваненка.



Таццяна Закрэўская.




## “Ну, мінус колькі сантыметраў?”

МАЛАДЗЕЧНА

**“РГ” сумесна з фітнес-клубам “Тытан” запусціла праект “Зорка з трэнажоркі”. Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**

Калі я скажу, што цягам усіх гэтых трох тыдняў я бездакорна выконвала ўсе парады ў трэніроўках і харчаванні, то вымушаная прызнацца – не.

Здаралася, што і цукерачка ў рот трапляла, і ў трэніроўцы трохі халтурыла. Напрыклад, выконвала не 40, а 36 прысяданняў.

Цяжкая гэта справа, хачу я вам сказаць, – трымаць сябе ў руках.

Было нават такое, што не хацелася ісці на чарговую трэніроўку. Але гэты “нехачуха” паміраў унутры мяне пасля таго, як я ступала на бегавую дарожку. Далей – справа тэхнікі.

А яшчэ вельмі натхняюць маладзечанцы.

Стаю ў суботу на прыпынку, гляджу расклад транспарту, а мне тут нейкі мужчына: “Ну, мінус колькі сантыметраў”. Ой! А за мной, аказваецца, сочаць.

Трэнер Руслан Дунец у сераду паглядзеў на мяне і сказаў: “Таааак, трэба дадаваць яшчэ дзве трэніроўкі – адну сілавую па пятніцах і адну кардыя – у нядзелю”.

Чатыры трэніроўкі ў тыдзень!

Расказала пра гэта дзяўчатам у распранальні. І, ведаеце, ніхто не здзівіўся. Так, кажуць, мы бегаем на стадыёне раз на тыдзень, плаваем у басейне.

Але гэта таго варта, падумала я, калі звярнула ўвагу на тое, як дзяўчаты круцяцца каля люстэрка і хваляць сябе за скінутыя кілаграмы, падцягнутую фігуру.

**У тую ж сераду стала на вагі: мінус чатыры кілаграмы.**

Не спяшайцеся казаць: “Фууууу, можна было б і 14”! У мяне наперадзе яшчэ амаль два месяцы трэніровак да першапачаткова заяўленага выніку.

Таму вельмі актыўна запрашаю чытачоў далучацца.

Асабліва запрашаю чытачоў-студэнтаў, таму што клуб “Тытан” прапануе спецыяльны абанемент для студэнтаў. Кошт абанемента – 19 рублёў у месяц. Колькасць наведванняў – неабмежаваная. Таму можна пары прагульваць з карысцю ў трэнажорнай зале. Вядома, я жартую.

І яшчэ невялічкая навіна для тых, хто лічыць сваё цела бездакорным.

Клуб “Тытан” запрашае на конкурс “Mr.& Ms. EUROPA Fitness”. Конкурс для тых дзяўчат і хлопцаў, якім ёсць чым пахваліцца.

Я сёлета пагляджу, а на наступны год буду ўдзельнічаць сама.

# Хочаце на жыццё глядзець прасцей – займайцеся ёгай

МАЛАДЗЕЧНА

**Акрамя таго, што фізічныя трэніроўкі дапамагаюць падтрымліваць цела ў добрай фізічнай форме, некаторыя з іх могуць навучыць людзей па-новаму зірнуць на свет, жыццёвыя праблемы, а таксама стаць больш упэўненым у сабе.**

Каб дасягнуць такой мэты, трэнер **Вольга Злотнікава** рэкамендуе звярнуць увагу на фітнес-ёгу.

– Заняткі ёгай карысныя для ўсіх людзей, ёсць супрацьпаказанні толькі ў тым, якія практыкаванні выконваць, – заўважае спецыяліст. – Калі, напрыклад, у вас гіпертанія, не трэба рабіць практыкаванні, у якіх неабходна пераварочвацца, каб галава была нахіленая. Людзям з артрытам нельга сядзець у позе “лотаса”, калі калені разведзеныя ў бакі. Аднак усё гэта можна абмеркаваць з трэнерам, ён падбярэ іншую нагрузку.

## Слухайце цела, яно благога не параіць

Як заўважае Вольга, многія жанчыны напачатку не зусім могуць разлічыць свае магчымасці, імкнуцца вельмі хутка дасягнуць выніку, над якім варта працаваць, напрыклад, месяц.

– Заўсёды падчас заняткаў заўважаю, што некаторыя жанчыны перасільваюць сябе, – расказвае Вольга. – Аднак магчымасці ў кожнага ж розныя, калі адзін можа праз месяц сесці на шпагат, іншаму можа спатрэбіцца больш часу. Таму варта прыслухоўвацца да сябе, свайго цела, у іншым выпадку, вы зробіце практыкаванне, а на наступны дзень з цяжкасцю ўстанеце з ложка.

Калі ж у вас ёсць канкрэтная мэта, варта падабраць комплекс практыкаванняў, якія дапамогуць яе дасягнуць, напрыклад, палепшыць гнуткасць, умацаваць спіну, навучыцца рэлаксаваць.

## Сціплым і сарамлівым трэба ўмацоўваць спіну

Для людзей сціплых, сарамлівых спецыяліст раіць падчас заняткаў асаблівую ўвагу звярнуць на ўмацаванне мышцаў спіны.

– Пазваночнік – гэта каркас, на якім трымаюцца іншыя часткі цела, – разважае Вольга. – Калі спіна прамая, галава высока паднятая, то мы вальней адчуваем сябе, больш упэўнена. Сарамлівыя ж людзі часта ўгінаюць галаву ў плечы, тым самым як бы становяцца менш заўважнымі. Ад гэтага чалавек, акрамя ўсяго пералічанага, становіцца больш раздражнёным, з сумным настроем. Таму калі вы хочаце адшукаць у сабе новыя сілы, набыць упэўненасць, добры настрой, варта наведваць заняткі, праз некаторы час вы не будзеце рабіць высілкі, каб утрымаць спіну роўнай.

Практыкаванні на ўмацаванне мышцаў спіны карысныя і для людзей, якія доўгі час працуюць за камп’ютарам. Калі яны нахіляюцца да камп’ютара, пазваночнік знаходзіцца не ў прамым становішчы. Ад гэтага лёгкія і іншыя органы не атрымліваюць належную колькасць кіслароду, таму пагаршаецца ўвага, разумовая дзейнасць.

## Мы не ўмеем расслабляцца

Заключнай часткай заняткаў ёгай з’яўляецца рэлаксацыя, менавіта яна дапамагае супакоіцца, адысці ад будзённых спраў, угледзецца ў сябе. Аднак менавіта гэта частка і выклікае большыя цяжкасці – жанчыны не ўмеюць расслабляцца.

– Калі іншыя практыкаванні выконваюць старанна, то як толькі пераходзім да расслаблення, многія наадварот больш напружваюцца. Некаторыя расказваюць, што не могуць нават уявіць, як гэта можна дзесяць хвілін ні пра што не думаць, – дзеліцца досведам спецыяліст. – Працуем над гэтым паступова. Гэта ж дапамагае не толькі адчуць сябе, аднак і добры спосаб пазбавіцца стрэсаў – адпачыў некалькі хвілін, прасцей знайсці добры настрой.

Людзям, якія вагаюцца, ці займацца ёгай, спецыяліст раіць: галоўнае, пачаць, цяжка толькі адразу. Але не трэба сябе перасільваць, калі не падабаецца, шукайце сябе, займайцеся тым, што захапляе.

– Для сябе вырашыла, што буду бабулькай-ёгіняй, – смяецца Вольга. – Я многа чытала пра людзей, якія займаюцца ёгай, нават у сталым узросце яны выглядаюць маладзей за сваіх аднагодкаў, маюць больш моцнае здароўе, даўжэй жывуць. Да гэтага імкнуся і я.

## Мужы баяцца прыгожых жонак

Як адзначае спецыяліст, многія жанчыны часта кідаюць заняткі фітнесам, ёгай, таму што забараняюць мужы.

– Я бачу прычыну толькі ў тым, што мужчыны баяцца. Калі жонка стане больш прыгожай, то будзе лавіць прыязныя погляды ад супрацьлеглага полу, – разважае жанчына. – Тым больш, трэба і самому адпавядаць: побач з прыгожай жанчынай хочацца самому стаць больш дасканалым, а гэта патрабуе высілкаў, часу, цярпення. Таму прасцей забараніць удасканальвацца жонцы.

**Што апранаць на заняткі?**

1. Лепш адзенне, якое добра цягнецца, напрыклад, легенсы і майку альбо лёгкую кофтачку.

2. Апранайце тое, што падабаецца. Калі мы самі сабе падабаемся, то і працаваць над целам прасцей.

3. Выбірайце яркае адзенне, шэрасці хапае ў будзённым жыцці. Навучыцеся вылучацца сярод астатніх, так вы станеце больш упэўненай.

**Ці есці перад заняткамі?**

Перакусіце, аднак не наядайцеся. Галоднымі на заняткі не трэба прыходзіць, увесь час вашы думкі будуць занятыя страўнікам.

**Колькі раз на тыдзень варта займацца?**

Пажадана два-тры разы на тыдзень. Людзі ж, у якіх ёга – лад жыцця, займаюцца два разы на дзень: раніцай і вечарам.

**Ці можна пры дапамозе ёгі пахудзець?**

Так, можна. Аднак не чакайце хуткага выніку, лішнія кілаграмы сыдуць паступова, цела падцягнецца. Скажыце трэнеру пра сваю мэту, ён падбярэ комплекс практыкаванняў, якія будуць садзейнічаць пахудзенню.



**Галіна Суднікович**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Вольга Злотнікава, трэнер па ёзе. Займаючыся ёгай, чалавек становіцца больш гнуткім і прыгажэе знешне.

Фота забяспечанае Вольгай ЗЛОТНІКАВАЙ.




## Мясныя рулецікі з бульбай і брокалі

**Рэцэпт стравы, якая ідэальна падыходзіць да святочнага стала.**



*600 г свініны, 100 г брынзы, 3 г кедравых арэшкаў, 300 г вяленых памідораў, 120 мл сухога віна, 300 г брокалі, 300 г адваранай бульбы, 3 сталовыя лыжкі аліўкавага алею, 1 ст. лыжка цукру, соль, чорны молаты перац, вада.*

Адварыце брокалі да паўгатоўнасці. Арэшкі падсушыце на патэльні. Мяса адбіце, пасаліце, паперчыце. Брынзу змяшайце з кедравымі арэшкамі. На кожную лустачку свініны пакладзіце брынзу і брокалі. Скруціце рулецікам і замацуйце. Абсмажце на алеі 10 хвілін. Перакладзіце рулецікі ў форму.

У патэльню пакладзіце памідоры, астатнюю капусту, пасыпце цукрам і абсмажце 3-4 хвіліны. Уліце віно і трохі вады. Заліце гэтым соусам рулецікі і запячыце ў разагрэтай духоўцы да румянай скарыначкі. Падавайце з варанай бульбай.

**Проста МАРЫЯ.**



## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

РЭПЕРТУАР НА НА ЛІСТАПАД

**"Цярамок"** (вясёлая казка), *С.Маршак* (рус. мова)
6 лістапада – у 12:00

**"Доктар Айбаліт"** (казка-прыгода), *В.Карастылёў*
13 лістапада – у 12:00

**"Маша і мядзведзь"** (народная казка), *В.Швэмбергер*
20 лістапада – у 12:00

**"Васіліса прыгажуня"** (чарадзейная казка), *К.Чарняк* (рус.мова)
27 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

УНП 600136804

### ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | | | 6 | 4 | | | 2 | |
| | | 2 | | 7 | | | | |
| | 7 | | 9 | 3 | 2 | | | |
| | 2 | 8 | | | | 1 | | |
| | 1 | 9 | | | | 8 | 6 | |
| | | 6 | | | | 2 | 5 | |
| | | | 2 | 5 | 4 | | 7 | |
| | | | | 8 | | 3 | | |
| | 8 | | | 1 | 9 | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





З дапамогай кніг мы можам пераносіцца ў іншыя краіны, не ўстаючы са сваёй канапы. Фота marketium.ru.

## Кнігі, з якімі восеньскія вечары пройдуць цікавей і хутчэй

**Восень – добры час, каб захутацца ў плед, узяць кубачак гарачага чаю і пачытаць добрую кнігу. Мы прапануем некалькі варыянтаў.**

**1. Ганна Гавальда "Я яе кахаў. Я яго кахала".**

Лейтматывам рамана з'яўляюцца словы "Заўсёды гавораць пра гора кінутых... А ты калі-небудзь думала пра тых, хто сыходзіць?"

Здаецца, што ў сюжэце аўтар не адкрывае нешта новае. Ад маладой жанчыны сыходзіць муж, яна застаецца з двума дзецьмі.

У цяжкай сітуацыі яе падтрымлівае свёкар П'ер, які, як падаецца многім, ні ў што не ставіць іншых людзей, думае толькі пра свой камфорт. Аднак у гэтай сітуацыі ён раскрываецца з іншага боку.

Калі П'ер ужо быў жанаты, сустрэў каханне ўсяго жыцця. Менавіта гэта жанчына дапамагала яму быць самім сабой і не баяцца сваіх слабасцяў. П'ер доўга вагаўся: застацца з жонкай і дзецьмі альбо даць сабе магчымасць быць шчаслівым. Ён пабаяўся зрабіць рашучы крок і ад гэтага пакутаваў усё жыццё. Сваёй гісторыяй ён дае падставу для развагі нявестцы: ці заўсёды лепш застацца і тым самым рабіць няшчаснымі сваю сям'ю, ці лепш набрацца смеласці і пайсці...

**2. Сесілія Ахерн "Не веру. Не спадзяюся. Кахаю".**

Амаль 50 гадоў жыцця галоўных герояў змясціліся ў кнігу. Розі і Алекс сябруюць з дзяцінства. У школе яны складаюць планы на жыццё, Алекс марыць пра кар'еру доктара, Розі хоча працаваць у гатэлі. Аднак жыццё распараджаецца па-іншаму: калі ў Алекса ўсё атрымліваецца з работай, то Розі нараджае дзіця і ўвесь час змагаецца за тое, каб рэалізаваць сваю мару.

Галоўныя героі будуюць свае жыццё, робяць памылкі ў выбары мужа і жонкі. Але ўсё таму, што ў свой час пабаяліся сказаць адно аднаму кахаю. Гэта атрымоўваецца зрабіць у 50 гадоў.

Прываблівае ў кнізе стыль напісання: гэта не звыклы аповед; пра думкі, пачуцці герояў мы даведваемся праз электронныя лісты, якія яны пішуць адно аднаму.

**3. Марыя Пар "Вафельнае сэрца".**

Напрыканцы асенніх канікулаў прапануем пачытаць разам з дзецьмі кранальную гісторыю сяброўства дзевяцігадовага Трыле і яго сяброўкі Алены.

Дзіцячымі вачамі мы можам паглядзець на дарослых, іх важнасць у жыцці; пачуць развагі пра тое, што такое сапраўднае сяброўства, каханне. Разам з маленькімі героямі вы будзеце смяяцца над дзіцячымі прыгодамі, плакаць пасля страты блізкіх. Але самае галоўнае: вы паверыце ў тое, што сябрамі можна застацца на ўсё жыццё.

Старонкі гэтай кранальнай гісторыі глытаеш адна за другой, настолькі захапляешся напісаным. Вечар з гэтай кнігай праляціць імгненна.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

РЭПЕРТУАР НА НА ЛІСТАПАД

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. **"Залатое сэрцайка"** (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова), *Святлана Навуменка*
1, 2, 4 лістапада – у 10:30

**Всё будет хороШОУ!"** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
3 лістапада – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. **"Дыягназ – каханне"** (лірычная камедыя), *Андрэй Максімаў*
5 лістапада – у 17:00

**"Банкет"** (сентыментальная камедыя), Ніл Сайман
8 лістапада – у 19:00

**" 13"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
10 лістапада – у 19:00

**"Нязваны госць"** (ну, вельмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
12 лістапада – у 17:00

**"Плачу наперад"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
13 лістапада – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Дыягназ – каханне"** (лірычная камедыя), *Андрэй Максімаў*
15 лістапада – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Дзядзечкаў сон"** (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
17 лістапада – у 19:00

**ГАСТРОЛІ БРЭСЦКАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ДРАМЫ ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ**

**"Вясёлы ўдавец"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Сайман Мос*
24 лістапада – у 19:00

**"Гульня кахання і выпадку"** (камедыя ў 2-х дзеях), *П'ер Карле дэ Марыво*
25 лістапада – у 19:00

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*
30 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

Маладзечна, вул.Чкалава, 7.
Кантактныя тэлефоны:
75-29-16 – намеснік дырэктара,
76-17-32 – галоўны адміністратар,
75-24-17 – каса.
E-mail: modt@tut.by.by
Сайт: theatre-modt.by

УНП 600066659

### ● ГАРАСКОП 4-10 ЛІСТАПАДА



**Авен.** Вам удасца многага дабіцца. Вашы дасягненні і заслугі адкрываюць новыя перспектывы. Але не лунайце ў аблоках, бо з-за іх можаце не ўбачыць свой шлях.



**Цялец.** Вы будзеце адчуваць сябе на кані, павялічыцца і ваш рамантычны настрой, што дазволіць завесці новыя рамантычныя знаёмствы. Але не спадзявайцеся на нейкія доўгія і сур'ёзныя адносіны.



**Блізняты.** Разбярыцеся ў сабе і сваіх пачуццях, перш чым улазіць у чужое жыццё і даваць парады. Займіцеся домам, знайдзіце час для сваёй сям'і, і ўсё пойдзе на лад.



**Рак.** Кожны раз глядзіце на сябе збоку, каб не выйсці за межы рэальных магчымасцяў і патрэбаў. Кантралюйце свае жаданні і думкі.



**Леў.** Не крыўдуйце на сваіх блізкіх, лепш прыслухайцеся да іх заўваг, бо збоку больш бачна. Варта паспрабаваць змяніцца ці хоць паглядзець на ўсё з іншага пункту погляду.



**Дзева.** Вы спрабуеце ўсе пытанні вырашаць пры дапамозе банальнага лагічнага мыслення. Але, здараецца, лёс патрабуе зусім іншых дзеянняў. Навучыцеся адпускаць падзеі ў самастойнае плаванне.



**Шалі.** Час спрыяльны для асабістых спраў, для наладжвання адносінаў у сям'і, а самае галоўнае – для новых рамантычных знаёмстваў, якія потым могуць абярнуцца для вас шлюбам.



**Скарпіён.** Каб не сапсаваць адносіны з навакольнымі, каб не пацярпеў ваш фінансавы стан, будзьце асцярожныя ў словах, не такія імпульсіўныя ва ўчынках.



**Стралец.** Нейкі чалавек, які мае вагу ў грамадстве, акажа падтрымку і гатоў падаць вам руку дапамогі, незалежна ад цяжкасці вашага становішча.



**Казярог.** Вам трэба ўнесці змяненні ў сваё жыццё, ад шмат чаго былога адмовіцца, каб вызваліць месца для новага. Можа здасца, што вы дзейнічаеце ўпустую, але гэта не так.



**Вадалей.** Перад вамі адкрываюцца перспектывы нядрэннага заробку. Але глядзіце, каб не ўзніклі перашкоды з боку іншых людзей. Поспех залежыць ад таго, наколькі рашуча вы будзеце дзейнічаць.



**Рыбы.** Кіньце свежы погляд на сваё жыццё ў цэлым і на тую работу, што вы ўжо зрабілі. Вам неабходная самаацэнка ўласных дасягненняў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006
# Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

5 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 | | 0 | | +1 | | +1 | |
| | +1 | | +2 | | +5 | | +2 | |
| | 742 | → 4 | 741 | ↑ 7 | 729 | → 4 | 731 | ← 8 |
| Вільня | -1 | | 0 | | +1 | | +3 | |
| | +2 | | +3 | | +5 | | +1 | |
| | 750 | → 4 | 747 | ↖ 7 | 738 | → 4 | 738 | ← 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.24
Захад 17.28
Даўжыня дня 9.04

Усход 13.10
Захад 21.47
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -11,9 °С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +13,9 °С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 21,4 мм у 2012 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **У садку ёй палохаюць непаслухмяных дзяцей. "Вось будзеш паводзіць сябе дрэнна, прыйдзе цётка ў белым халаце і зробіць табе ўкол". А гэтая цётка ўсяго толькі медсястра ў дзіцячым садку. Як ёй працуецца з маленькімі пацыентамі?**

●АНОНС

## Палац культуры запрашае на вечарыну паэткі Святланы Капуцкай

МАЛАДЗЕЧНА

8 лістапада Палац культуры і духоўна-патрыятычнае аб'яднанне "Светач" ладзяць літаратурна-музычную вечарыну паэткі Святланы Капуцкай "Я маці, я жанчына, я павінна".

Вечарына адбудзецца ў малой зале Палаца культуры.

Пачатак у 17:30.

Уваход вольны.

## Рыцары і музыкі сустрэнуць вас у Верадове

МАЛАДЗЕЧНА

7 лістапада ў Доме паляўнічага ў Верадове Маладзечанскі лясгас зладзіць мерапрыемства "Па старонках гісторыі Сярэднявечча".

У праграме – рыцарскія баі і выступленні музыкаў.

Запрашаюць дзяцей і дарослых.

Пачатак у 10:30.

Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**



● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



Фота з асабістага архіва Крысціны КІРЫЧЭНКА.

Дзеці-трайняткі з Маладзечна Ульяна, Яраслаў і Яна Кірычэнкі.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чым вам непрыемная зіма?



**Аляксей Маскалевіч, навучэнец:**
– Холад непрыемны. А ўсё астатняе добра. На зімовае адзенне грошай шмат не траціцца, я ж хлопец, а не дзяўчына.



**Марыя Назарава, сакратарка:**
– Калі зіма сапраўдная, то яна прыемная. А калі здараецца такое надвор'е, як сёння, непрыемныя халодныя рукі і мокрыя ногі.



**Аляксандр Прышчэпаў, вучань:**
– Мокра і холадна. А ўсё астатняе падабаецца: і канікулы, і Новы год.



**Валянціна Рамановіч, навучэнка:**
– Гразь не падабаецца. Даводзіцца хадзіць цэлы дзень у брудным і мокрым абутку.



**Крысціна Пятроўская, спецыяліст выканкама:**
– Самае непрыемнае тое, што Новы год – адзін раз. І тое, што выхадных не так шмат, як хацелася б. Няхай бы і нам рабілі канікулы, як школьнікам.



**Ксенія Кнырко, навучэнка:**
– Не люблю цёпла апранацца, а трэба. Больш часу дома трэба праводзіць.



**Вікторыя Давідзёнак, вучаніца:**
– Мне непрыемны снег, холад. Зімой я часам хварэю. А яшчэ сябры не заўсёды хочуць выходзіць на вуліцу.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№45 (1123) 4.11.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1073. Падпісана ў друк у 9.00 3.11.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.